Гродна
№18 (524),
13 кастрычніка 2019

www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



## "Ахрысшчаныя і пасланыя: Хрыстовы Касцёл з місіяй у свеце"



ПАД ТАКІМ ДЭВІЗАМ У КАСЦЁЛЕ ТРЫВАЕ НАДЗВЫЧАЙНЫ МІСІЙНЫ МЕСЯЦ. ЁН ПАВІНЕН ПАСПРЫЯЦЬ АБУДЖЭННЮ Ў ВЕРНІКАЎ СВЯДОМАСЦІ МІСІІ "AD GENTES", КАБ САПРАЎДЫ АД УСЯГО СЭРЦА ЗАПРАГНУЛІ АБВЯШЧАЦЬ ЕВАНГЕЛЛЕ, І ЖАДАННЮ РАСПАЧАЦЬ З НОВАЙ ЭНЕРГІЯЙ ПЕРАМЯНЕННЕ ДУШПАСТЫРСТВА, ЗМЯНІЦЬ СУПОЛЬНАСЦІ Ў МІСІЙНЫЯ І ЕВАНГЕЛІЗАЦЫЙНЫЯ РЭЧАІСНАСЦІ; КАБ РАЗВІВАЛАСЯ ЛЮБОЎ ДА МІСІЙ, ЯКІЯ З'ЯЎЛЯЮЦЦА ЎМІЛАВАННЕМ ЕЗУСА І АДНАЧАСОВА ЛЮБОЎЮ ДА ЯГО ЛЮДУ.

● працяг на с. 3

## ЗМАГАР ЗА ПРАЎДУ І СВАБОДУ



19 КАСТРЫЧНІКА ПРЫПАДАЕ 35-АЯ ГАДАВІНА МУЧАНІЦКАЙ СМЕРЦІ БЛ. ЕЖЫ ПАПЯЛУШКІ. АДДАЮЧЫ ЖЫЦЦЁ ЗА ВЕРУ І АЙЧЫНУ Ў ЧАСЫ ДЫКТАТУРЫ, КСЁНДЗ НАЗАЎЖДЫ ЗАСТАЎСЯ Ў ПАМЯЦІ ЛЮДЗЕЙ ЯК ЧАЛАВЕК НЯЗЛОМНЫХ ПРЫНЦЫПАЎ, ГАТОВЫ ДА САМАПРЫСВЯЧЭННЯ.

● працяг на с. 4

"Місія Касцёла абуджае паставу нястомнай пілігрымкі праз розныя пустыні жыцця". Папа Францішак

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

### XXVIII ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ

**Лк 17, 11–19**

Езус, калі ішоў у Ерусалім, праходзіў праз Самарыю і Галілею. І калі Ён уваходзіў у адну вёску, сустрэлі Яго дзесяць пракажоных, якія сталі здалёк і моцным голасам казалі: “Езус, Настаўнік, змілуйся над намі”. Убачыўшы іх, Ён сказаў ім: “Ідзіце, пакажыцеся святарам”. А калі адышлі, яны ачысціліся. І адзін з іх, убачыўшы, што стаў аздароўлены, вярнуўся, моцным голасам праслаўляючы Бога, і, упаўшы ніцма да ног Яговых, дзякаваў Яму. А быў гэта самаранін. Тады Езус сказаў: “Ці не дзесяць было ачышчаных, дзе ж дзевяць? Не знайшлося нікога, хто б вярнуўся аддаць славу Пану, акрамя гэтага чужынца?”. І сказаў яму: “Устань, ідзі; вера твая збавіла цябе”.

### ПАСТАВА ЎДЗЯЧНАСЦІ

Хрыстос не пагарджае пракажонымі, а хоча дапамагчы ім, аблягчыць іх жыццёвую бяду, таму вяртае жаданае здароўе. А разам са здароўем вяртае годнасць, надзею на лепшае заўтра, вяртае жыццё, у чарговы раз паказваючы людзям сваю нязмерную міласэрнасць.

Мы таксама неаднойчы адчуваем такую любоў у сваім жыцці, калі пакутуем ад хвароб: як фізічных, так і духоўных. Міласэрны Бог увесь час прабачае і аздараўляе ад духоўнай немачы, да якой прыводзіць грэх, ад таго, што аддаляе ад Яго і іншага чалавека.

Дадзены фрагмент Святога Пісання асаблівым чынам вучыць нас паставе ўдзячнасці – за тое, што так шмат ласкаў атрымліваем ад Усемагутнага. Мы не павінны рабіць, як 9 пракажоных з Евангелля. Не павінны прымаць Божыя дары абыякава, нібы яны нам належаць. Толькі поўны ўдзячнасці чалавек можа быць сведкам сапраўднай любові Стварыцеля.

Давайце навучымся дзякаваць Богу за аказаную міласэрнасць. Навучымся таксама дзяліцца гэтай міласэрнасцю з іншым чалавекам, практыкуючы ахвярную любоў у сваім штодзённым жыцці.

**Ці здольны я за ўсё дзякаваць Пану?**
**Ці магу дзяліцца атрыманай ад Бога міласэрнасцю з патрабуючымі?**

### XXIX ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ

**Лк 18, 1–8**

Езус расказаў сваім вучням прыпавесць пра тое, што трэба заўсёды маліцца і не падаць духам: “У адным горадзе быў суддзя, які Бога не баяўся і людзей не саромеўся. У тым самым горадзе была адна ўдава, і яна, прыходзячы да яго, казала: «Абарані мяне ад праціўніка майго». Але ён доўгі час не хацеў. А потым сказаў сам сабе: «Хоць і Бога не баюся, і людзей не саромеюся, але з-за таго, што гэтая ўдава не дае мне спакою, абараню яе, каб яна не прыходзіла больш дакучаць мне»”. І сказаў Пан: “Паслухайце, што кажа несправядлівы суддзя. Дык ці ж Бог не абароніць выбраных сваіх, якія просяць Яго дзень і ноч, хоць і марудзіць абараніць іх? Кажу вам, што неўзабаве абароніць іх. Аднак Сын Чалавечы, прыйшоўшы, ці знойдзе веру на зямлі?”.

### НАСТОЙЛІВАЯ МАЛІТВА

Усемагутны прагне нашай малітвы. Хоча, каб “бамбардзіравалі” Яго просьбамі. Аднак прагне гэтага не дзеля сябе – людскія малітвы нічога Яму не дадаюць – а дзеля нас саміх. Малітва з'яўляецца крыніцай ласкі, якая ўзбагачае і змяняе сэрца.

Пан Езус заахвочвае нас да нястомнай малітвы нават тады, калі здаецца, што акалічнасці супраць, а страх паралізуе волю. Заахвочвае, каб былі напорыстымі, як бедная ўдава, якая не давала спакою суддзі. Настойлівая малітва “развязвае” Богу рукі, робіць Яго прысутным у нашым жыцці.

Як Майсей заклікаў Стварыцеля пад пагрозай смерці, выцягваў рукі, поўны надзеі, молячы аб ацаленні ад жорсткіх амалекіцян, так і мы павінны даверыцца моцы малітвы. Кожная сітуацыя, даручаная Богу, будзе ім асвечана і зменена.

Дык паслухайма заахвочванне Хрыста “маліцца, не стамляючыся”.

**Як выглядае мая штодзённая малітва?**
**Ці гавару аб цяжкасцях у малітве з Богам?**

*Кс. Юрый Марціновіч*

**Слова рэдактара**



*Кс. Юрый Марціновіч*

# Мы пасланыя

*Місія нясення Хрыста іншым – ажно да краёў зямлі – няспынна трывае на працягу 2-юх тысяч гадоў. Наказ ісці і абвяшчаць Добрую Навіну надалей застаецца актуальнай і вельмі патрабавальнай задачай, пакінутай Касцёлу Збаўцам.*

Як Айцец паслаў Сына, так і Сын паслаў апосталаў, а цяпер пасылае нас для рэалізацыі асаблівай місіі збаўлення чалавека. Яе сёння выконвае Касцёл, які па сваёй прыродзе пакліканы, каб абвяшчаць Божае слова, ствараць згуртаванні вучняў, а таксама дзяліцца верай у адзінага Пана, Даўцу вечнага жыцця.

Касцёл 3-га тысячагоддзя, як гаварыў св. Ян Павел II, павінен вярнуць сваю місіянерскую статраннасць і змясціць наказ Хрыста “Ідзіце і навучайце” ў цэнтр сваёй душпастырскай дзейнасці. Сёння папа Францішак заклікае распачаць новы этап евангелізацыі, поўны дынамізму і радасці. Характарызуе яго як місійны выхад, каб дабрацца на перыферыі свету; як адпраўленне ў дарогу, каб скласці сапраўдную супольнасць вучняў, якія бяруцца за новыя ініцыятывы.

Мы ўсе запрошаны выйсці за межы сваіх парафій, супольнасцей, сямейных ачагоў з Добрай Навінай. Нягледзячы на тое, якім жыццёвым пакліканнем нас адарыў Бог, моцай св. хросту ўсе з'яўляемся – як навучае папа Францішак – вучнямі-місіянерамі (EG, 120). З запалам мусім дабірацца да тых, хто патрабуе святла Евангелля, да тых, хто страціў смак веры, жыве ў яе нястачы. Маем скіравацца ў дарогу, каб быць сапраўднымі сведкамі Хрыста.

Надзвычайны місійны месяц, які зараз трывае ў Паўсюдным Касцёле, з'яўляецца нагодай, каб усвядоміць, што наказ Езуса “Ідзіце і навучайце” датычыць усіх членаў Касцёла. Кожны з нас пакліканы да евангельскага адназлення і місійнага навяртання.

**Дарагія Чытачы!**

Давайце далучымся да евангелізацыйнай дзейнасці Касцёла. Заклікайма Святога Духа, “галоўную дзеючую асобу місій”, каб дзейнічаў у нас і праз нас, каб “усе людзі былі збаўлены і дайшлі да пазнання праўды” (1 Цім 2, 4).

ЖЫЦЬ ЕВАНГЕЛЛЕМ

ПЕРШЫ СІНОД ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# Падкамісія па справах абвяшчэння Божага слова

У межах І Сінода Гродзенскай дыяцэзіі бп Аляксандр Кашкевіч стварыў Падкамісію па справах абвяшчэння Божага слова, якая ўваходзіць у склад Камісіі па справах літургічнага душпастырства і сакраментальнага жыцця. Абшарам яе зацікаўленасці з'яўляецца ўсё тое, што датычыць абвяшчэння і слухання Божага слова.

Касцёл жыве Божым словам, захоўвае яго і аберагае, перадае з пакалення ў пакаленне і дзеліцца ім з усімі людзьмі. Мэтай Падкамісіі з'яўляецца ацэнка прапаведавання Божага слова ў Гродзенскай дыяцэзіі (у тым ліку недахопы і памылкі, звязаныя з гэтай дзейнасцю), а таксама фармацыя тых, хто яго абвяшчае. Падкамісію цікавяць разнастайныя пытанні, звязаныя з нядзельным і штодзённым казаннем ці гаміліяй (крыніцы, тэматыка і інш.), а таксама арганізацыя парафіяльных місій і рэкалекцый.

Члены Падкамісіі падкрэсліваюць, што ў справе будавання Касцёла гамілія адыгрывае істотную ролю, будучы асноўным спосабам навучання вернікаў на св. Імшы. Яе змест павінен канцэнтравацца на пераказе сэнсу фрагментаў Святога Пісання, прачытаных падчас літургіі. У гаміліі неабходна выкарыстоўваць экзэгезу біблійнага тэкста і браць пад увагу багатую шматвяковую традыцыю Касцёла.

На пасяджэннях Падкамісіі закранаецца той момант, што выразныя пазітыўныя адносіны казнадзея да слухачоў асвячаюць абвяшчаемае Божае слова. Ён павінен усведамляць, наколькі каштоўная і патрэбная выконваемая паслуга, глядзець на сябе ў святле глыбокай веры, перажываючы ўласную місію ў пачуцці абавязку і вернасці адносна Стварыцеля і людзей.

Члены Падкамісіі адзначаюць, што казнадзеі пакліканы абуджаць сумленні людзей, садзейнічаць развіццю іх унутранай вольнасці, якая выплывае з кантакту з Богам, асабліва на малітве. Адначасова паглыбленае духоўнае жыццё і сувязь з Усемагутным натуральным чынам вядуць да больш глыбокага разумення грамадскіх спраў, салідарнасці з бліжнімі, адчувальнасці да церпячых, зняволеных і пазбаўленых асноўных людскіх праў.

Асаблівую ўвагу Падкамісія звяртае на тое, што вернікі патрабуюць асабістага сведчання казнадзея, хочуць слухаць асобу, якая атаясамлівае сябе з тым, аб чым гаворыць. Астатняе мае другаснае значэнне.

Заахвочваем ахінуць малітвай членаў Падкамісіі па справах абвяшчэння Божага слова і праблемы, якімі яны займаюцца. Просім Бога, каб прамаўляемыя гаміліі былі не столькі ўпамінаннем Хрыста, колькі абвяшчэннем падзеі Езуса як збаўчай рэчаіснасці, якая стаіць перад кожным чалавекам і патрабуе адказу праз веру і маральную ўцягнутасць.

*Кс. Юрый Марціновіч*

# “Ахрышчаныя і пасланыя: Хрыстовы Касцёл з місіяй у свеце”

● працяг са с. 1

*Хто такія місіянеры, якія служаць сярод вернікаў іншых народаў? Якім чынам яны сведчаць аб любові Бога, а дзякуючы гэтаму спрыяюць пашырэнню Божага Валадарства на зямлі?*

**С. Людміла Леўдаровіч MChR,**
*паходзіць з парафіі свсв. апосталаў Пятра і Паўла ў Іўі*


Ісландыя паволі становіцца новым домам сясцёр Місіянерак Хрыста Валадара

Крыху больш за месяц таму пачалася мая місійная праца ў Ісландыі, а менавіта ў сталіцы – Рэйк'явіку. Гэта гістарычны момант не толькі для мяне, але для ўсёй супольнасці сясцёр Місіянерак Хрыста Валадара для Палоніі Заграпнічнай, да якой належу. Адкрыццё новай пляцоўкі пры катэдры Хрыста Валадара стала магчымым дзякуючы запрашэнню мясцовага біскупа Давіда Тэнцэра OFMCap.

У парафіі нас з 2-ма іншымі сёстрамі сустрэлі з вялікай радасцю і зычлівасцю. Адна жанчына, пачуўшы, што прыехалі місіянеркі, выйшла са слязамі на вачах, сказала, што вернікі маюць у нас вялікую патрэбу. Гавораць, што Ісландыя – гэта востраў агню і лёду. Сапраўды, слупкі тэрмометраў тут не дасягаюць высокіх тэмпературных паказчыкаў, затое людзі вельмі цёплыя і адкрытыя, а гэта не можа не цешыць.

Калі казаць пра мясцовыя каталіцкія рэаліі, то варта адзначыць, што на ўсім востраве існуе толькі 1 дыяцэзія і 1 катэдра. Але ўсё ж Касцёл мае найбольш шматлікую групу вернікаў у параўнанні з іншымі краінамі Скандынавіі. Каталіцкая супольнасць у Ісландыі складаецца, у першую чаргу, з эмігрантаў. 80% вернікаў – гэта палякі, затым ідуць філіпінцы. Ісландцы на апошнім месцы. Калі лічба ўсіх католікаў дасягае 13-ці тысяч, то мясцовых жыхароў сярод іх толькі 3 тысячы. Гэта тлумачыцца фактам, што 80-90% ісландцаў належаць да Лютэранскай Царквы.

да ўдзелу ў Жывым Ружанцы, наведваем хворых і пажылых асоб. Разам са святаром ездзім у іншыя мясцовасці. На жаль, не паўсюль ёсць касцёлы і парафіі, і відаць, як людзі патрабуюць душпастырскай апекі. Падчас адной з паездак на св. Імшы мне здалося, што вернікі тут, як авечкі без пастыра, ходзяць сваімі дарогамі, а важна паказваць ім шлях да Бога, бо гэтага прагнуць... Пачаткі пакуль што такія. Мы прыглядваемся, вывучаем, у чым ёсць патрэба, каб пасля дапасаваць нашу працу, знайсці тыя формы, якія дапамогуць дастукацца да людзей.

Я ў Ісландыі ўсяго толькі месяц, але ўжо мела вялікую колькасць сустрэч з рознымі людзьмі. Многія прыходзяць да нас дадому, каб проста паразмаўляць, падзяліцца сваімі радасцямі ці бедамі, распавесці, як ім жывецца, як знайшлі сябе ў новай краіне, новых абставінах. Гэтыя людзі некалі пакінулі радзіму ў пошуках лепшага жыцця. Прыемна чуць, што дбаюць пра духоўны складнік. Мяркую, наша прысутнасць ім





у гэтым дапаможа.

У катэдры, дзе мы служым, адпраўляюцца 2 св. Імшы на польскай мове, 1 на англійскай і 1 на ісландскай. Паслугу нясе ксёндз з Польшчы. Тут таксама прысутныя манахіні з Кангрэгацыі Сясцёр Місіянерак Любові, якія вядуць сталоўку для бедных і толькі пры магчымасці дапамагаюць у парафіі. Місія нашага ордэна – гэта, перадусім, праца сярод польскіх эмігрантаў. А паколькі палякі, якія жывуць у Рэйк'явіку, былі зусім не ахоплены душпастырствам, менавіта на гэтым і робім акцэнт.

Зараз нашай асноўнай задачай з'яўляецца падрыхтоўка да сакрамантаў: Першай споведзі і Камуніі, канфірмацыі. У Ісландыі няма занятак рэлігіі ў школе, таму дзеці прыязджаюць на катэхезу, якая ладзіцца пры парафіі. Таксама спрабуем уводзіць сярод вернікаў і іншыя формы актыўнасці: арганізоўваем дзіцячы хор, ладзім адарацыі Найсвяцейшага Сакраманту, заахвочваем

Я ўпэўнена, што кожны чалавек можа займацца місіянерскай дзейнасцю, бо так вучыць нас Езус: “Ідзіце і навучайце ўсе народы”. Не абавязкова ехаць у далёкую краіну на місіі, можна ў сваім асяроддзі прапагандаваць хрысціянскія каштоўнасці, рэалізуючы наказ Хрыста.

Асабіста для мяне місіянерства – гэта не толькі знаёмства з іншай культурай, новымі людзьмі, магчымасць паглядзець свет, адважыцца на нешта новае, а ў першую чаргу выхад за межы свайго асяроддзя. Місіянер павінен быць адкрытым на іншых людзей. У Ісландыі я сапраўды адчуваю, што рэалізую сваю місію, хоць не магу сказаць, што раней у іншых месцах было інакш. Аднак зараз гэта ўспрымаецца мацней, становіцца больш адчувальным. Я веру, што пасланая сюды Езусам, каб несці Яго патрабуючым. Гэта для мяне адначасова і выклік, і вялікая радасць.

**А. Павел Федаровіч MIC,**
*паходзіць з парафіі Узвышэння Святога Крыжа ў Лідзе*


У працы з моладдзю а. Павел спалучаў малітву, духоўныя зносіны з актыўным адпачынкам і інтэграцыйнымі мерапрыемствамі

У канцы жніўня 2018 года самалёт прызямліўся ў Карагандзе, новым месцы майго служэння. У гэтым горадзе я служыў амаль год, а цяпер знаходжуся ў Барысаве.

Магу сказаць, што гісторыя каталіцкай веры ў Казахстане незвычайная. Мясцовыя вернікі – гэта, у асноўным нашчадкі рэпрэсіраваных жыхароў з сучасных тэрыторый Польшчы, Заходняй Беларусі і Украіны. Адведваючы парафіян падчас душпастырскіх візітаў, я слухаў трагічныя апавяданні з вуснаў людзей, якія яшчэ дзецьмі былі вывезены разам са сваімі бацькамі і пакінуты ў голым і бяскрайнім стэпе.

У лагеры Казахстана траплялі таксама святары і манаскія асобы. Сярод іх асаблівым чынам адзначыўся кс. Уладзіслаў Букавінскі, які пасля заканчэння тэрміна зняволення застаўся служыць у Казахстане. Праз некаторы час пасля смерці ён быў беатыфікаваны ў катэдры ў Карагандзе. Я чуў



паходжання. У 2012 годзе адбылося асвячэнне катэдры, якая з'яўляецца таксама і парафіяльным касцёлам Найсвяцейшай Панны Марыі Маці Усіх Народаў. Такім чынам, у Карагандзе ёсць 3 парафіі з прыблізнай колькасцю “нядзельных” вернікаў у кожнай з іх 150-200 чалавек. На дадзены момант Караганда налічвае прыблізна 500 тысяч жыхароў, таму католікі складаюць толькі невялікую частку насельніцтва.

Падчас побыту ў Карагандзе я служыў у араторыі “Добры Пастыр” пры нашай парафіі. У кожны аўторак, пятніцу і нядзелю да нас прыходзілі дзеці і моладзь. Праграма выглядала наступным чынам: настольныя гульні, абед, тэма, праца ў групах, малітва на заканчэнне. Падчас школьных канікул ладзіліся асобныя лагеры для дзяўчат і хлопцаў. Летам адбываўся агульны лагер у Сарані, рэкалекцыйным доме недалёка ад Караганды.

Трэба адзначыць, дзякуючы такому месцу, як араторый, дзеці і моладзь могуць адчуць, што іх любяць і прымаюць. Тут яны могуць падсілкавацца, правесці час у прыемнай атмасферы, пачуць Добрую Навіну, пазнаёміцца і пасябраваць з веруючымі людзьмі, пачаць працаваць над сабой і змяняцца ў пазітыўным напрамку, развівацца ў розных накірунках (ёсць творчая майстэрня і спартыўная зала).



таксама шмат аповедаў пра ахвярнае служэнне іншых святароў, сясцёр і свецкіх людзей, якія жылі ў савецкія часы і мужна трывалі ў веры.

Прыблізная колькасць католікаў на сёння ва ўсім Казахстане вагаецца ў межах 25-30 тысяч чалавек. Агульная колькасць насельніцтва складае прыкладна 18,4 мільёнаў жыхароў. Асноўнай мовай у Касцёле з'яўляецца руская, але паступова ўзнікае патрэба і ў казахскай мове (пакуль што ёсць толькі малітоўнік).

Наша марыянская парафія Найсвяцейшай Панны Марыі Маці Касцёла пачала сваё існаванне ў 1994 годзе, калі а. Збігнеў Грыгарцэвіч MIC убачыў патрэбу духоўнай апекі сярод польскай дыяспары ў раёне Фёдараўка. У раёне Майкудук, які мясцовыя людзі называюць “Берлін”, веруючыя былі ў асноўным нямецкага

Вялікай дапамогай у працы араторыя з'яўляецца свецкія людзі. Хтосьці ахвяруецца як выхавацца, сямейная пара, напрыклад, служыла на кухні, некаторыя сочаць за парадкам у будынку. Вельмі цікавым досведам было супрацоўніцтва з імі, бо дзякуючы гэтаму сапраўды бачна адказнасць людзей за розныя справы.

Прабываючы ў Карагандзе, я ў пэўным значэнні атрымаў досвед жыцця мясцовага Касцёла. Падчас агульнай сустрэчы святароў і манаскіх асоб з усёй краіны ў Нур-Султане на пачатку мая меў магчымасць пачуць сведчанні іншых прадстаўнікоў духавенства і аповеды аб тых месцах, дзе яны служаць. Тады яшчэ больш пераканаўся, што Касцёл у Казахстане вельмі разнастайны, мае сваю адметную гісторыю і аблічча.

*Кінга Красіцкая*

## Слова для жыцця

**Папа Францішак**



*Вера, якая параўноўваецца з гарчычным зернем – гэта вера не высакамерная і саманадзейная, але якая ў сваёй пакоры адчувае вялікую патрэбу ў Богу, а ў сваёй нязначнасці з поўным даверам аддаецца Яму. Гэта вера, якая дае магчымасць з надзеяй глядзець на зменлівыя жыццёвыя падзеі, якая дапамагае прымаць паразы і пакуты, з усведамленнем, што зло ніколі не мае апошняга слова.*

*Як можам зразумець, ці сапраўды маем веру, г. зн. ці наша вера, хоць і малая, як гарчычнае зерне, але сапраўдная, чыстая? Гэта тлумачыць Езус, паказваючы, чым ёсць мера веры: служэнне. Ён робіць гэта з дапамогай прыпавесці пра гарчычнае зерне, якая на першы погляд крыху бянтэжыць, бо прадстаўляе постаць эвалтоўнага і раўнадушнага гаспадара. Але менавіта рэалізацыя ўлады паказвае, што з'яўляецца сутнасцю прыпавесці – паслухмянасць слугі. Езус хоча сказаць, што такім з'яўляецца веруючы чалавек у дачыненні да Бога: ён цалкам аддаецца Яго волі, без разліку і прэтэнзій.*

*Фрагмент прамовы перад малітвай “Анёл Пански” ў Ватыкане, 06.10.2019*

**Кс. абп Тадэвуш Кандрусевіч**



*Працэс падрыхтоўкі да святарства не называецца навучаннем як ва ўніверсітэце, але фармацыяй, што павінна быць усебаковай, а менавіта чалавечай, духоўнай, інтэлектуальнай і пастырскай. Касцёл, які мае вельмі багаты шматстагоддзевы досвед фармацыі святароў, стараецца падкрэсліваць душпастыраў, якія, паводле слоў Святога Айца Бенедыкта XVI, павінны дапамагчы чалавеку спаткацца з Богам згодна з выклікамі часу. Гэтае спатканне адбываецца праз удзел у сакрамантах і іншай дзейнасці Касцёла, але найперш праз абвяшчэнне Божага слова, бо вера ад слухання, як вучыць св. апостал Павел.*

*Фрагмент гамілії падчас св. Імшы інаўгурацыі новага навучальнага года ў Гродзенскай ВДС, 30.09.2019*

**Кс. бп Аляксандр Кашкевіч**



*Адказнасць за сакраментальнае святарства патрабуе грунтоўнай і ўсебаковай падрыхтоўкі ад кандыдата да пасвячэння. Гэтая падрыхтоўка, перш за ўсё, мае на мэце паглыбленне асабістых адносін будучага святара з Хрыстом. [...] Духоўная семінарыя павінна быць прасторай, якая заахвочвае маладых людзей да поўнага распазнання свайго паклікання, умацавання ў ім і дасягнення адпаведнай сталасці, каб дзякуючы моцы сакраманту святарства кандыдат стаў яркім вобразам нашага Пана і Збаўцы Езуса Хрыста.*

*Фрагмент прамовы на інаўгурацыі новага навучальнага года ў Гродзенскай ВДС, 30.09.2019*




◆ *У Касцёле будуць аб'яўлены 5 новых блаславёных. У іх ліку кард. Стэфан Вышынскі – арцыбіскуп-мітрапаліт Гнезна і Варшавы, Прымас Польшчы; кс. Франчэска Матола – заснавальнік свецкага інстытута Аблатак Найсвяцейшага Сэрца ў Калабрыі; а таксама 3 свецкія вернікі: італьянка Алесандра Сабацiні, іспанец Хуан Родж Дзігль і бразільянка Бенігна Кардоса да Сілва. Разам з тым, з прызнаннем гераічнасці цнотаў, абвешчаны Слугі Божыя: італьянскі біскуп Аўгуста Чэзарэ Бертацоні, французскі святар Луі Кэрб, іспанская манахіня Францішка ад Дзіцятка Езус з Ордэна св. Клары.*

◆ *Святы Айцец Францішак выдаў Апостальскі ліст "Aperuit illis" у форме motu proprio, у якім абвясціў III нядзелю звычайнага перыяду літургічнага года нядзеляй Божага слова. Яна прызначана для ўрачыстага ўшанавання Біблії. Дакумент быў апублікаваны 30 верасня бягучага года, у дзень літургічнага ўспаміну св. Гераніма – вядомага лацінскага перакладчыка Святога Пісання. Сёлета адзначаецца юбілей 1600-годдзя яго адыходу ў вечнасць.*

◆ *Папа Францішак падзяліў самую вялікую каталіцкую дыяцэзію ў свеце. З архідыяцэзіі Мехіка (Мексіка), якая налічвала 8,8 мільёнаў вернікаў, былі вылучаны 3 новыя дыяцэзіі: Аскапацалька, Істапалапа і Сачымілька. Разам з архідыяцэзіяй яны будуць утвараць мітраполію Мехіка. З гэтага часу самай вялікай з'яўляецца архідыяцэзія Кіншаса ў Дэмакратычнай Рэспубліцы Конга (амаль 7 мільёнаў вернікаў). Мехіка займае 2-ое месца (5,2 мільёнаў), на 3-ім знаходзяцца Сан-Паўлу ў Бразіліі і Мілан у Італіі (налічваюць крыху больш за 5 мільёнаў вернікаў кожная).*

◆ *Урад Хімачал-Прадэш (Індыя) зацвердзіў новы абмежавальны закон, які мае засцерагчы ад прымусовых навяртанняў. На практыцы ён імкнецца заблакіраваць усякую евангелізацыйную дзейнасць. Закон прадугледжвае жорсткія пакаранні ад 5-ці да 7-мі гадоў турмы за г. зв. прымус да навяртання. У дадатку патрабуецца, каб будучыя навернутыя і іх духоўныя кіраўнікі паведамлялі аб сваім намеры за месяц у лісце да акружнога суддзі. Каталіцкія іерархі лічаць, што новы закон знявольвае чалавека, паколькі прымушае яго на працягу ўсяго жыцця заставацца ў традыцыі, у якой нарадзіўся.*

◆ *Амерыканскія біскупы выступаюць з крытыкай адносна неадназначнасці поглядаў суайчынніка а. Джэймса Маціна SJ. Святар сцвярджае, што адкрытасць парафій на ЛГБТ-супольнасць можа "ўзбагаціць" Касцёл і веру людзей. Іерархі прызнаюць, што з аднаго боку айцец справядліва выказвае праўду пра тое, што Бог любіць усіх людзей; а з другога – ён стварае блытаніну сярод вернікаў, прапагандуючы ілжывае пачуццё таго, што амаральныя сексуальныя паводзіны прымальныя ў святле Божага закону.*

*vaticannews.va; credo.pro; wiara.pl*

# Змагар за праўду і свабоду

**Сёння на старонках "Слова Жыцця" пра бл. Ежы Папялушку ўспамінае яго пляменнік Марк Папялушка, які ў 1988 годзе выехаў з Польшчы ў ЗША. Спадар Марк узгадвае пра хвіліны, праведзеныя са сваім дзядзькам, і дзеліцца думкамі наконт ролі слыннага сваяка ў гісторыі народа і Касцёла.**



*Кс. Ежы ў коле блізкіх людзей (трымае маленькага Марка за плечы)*

● *працяг са с. 1*

***– Ці праўда, што карані сям'і Папялушкаў паходзяць з тэрыторыі сучаснай Беларусі? Што яднае вас з Беларуссю?***

– Я ніколі не чуў, каб наша сям'я з боку дзядулі ці бабулі паходзіла з Беларусі. Ведаю, што Каліноўскія (гэта дзявочае прозвішча маёй прабабулі) прыбылі з Літвы, паколькі за службу ў царскім войску атрымалі маёнтак у Карповічах. Я не ўпэўнены, але праўдападобна, што св. Рафал Каліноўскі таксама паходзіў з гэтай сям'і.

Бацька расказваў, што дзядуля з бабуляй часта ездзілі ў Гродна. Да перамяшчэння мяжы пасля II Сусветнай вайны гэта быў самы блізкі вялікі горад, куды накіроўваліся за пакупкамі. Ведаю таксама з аповедаў, што цэгла, якой абмураваны дом у Акопах, дзе нарадзіўся кс. Ежы, была ўзята з развалін нейкага будынка ў Гродне. Дзядуля спецыяльна ездзіў па яе коньмі.

***– Вы памятаеце кс. Ежы?***

– Дастаткова добра. Памятаю, як вечарамі падчас канікул у вёсцы (мне было тады нешта каля 7-8 гадоў) дзядзька паказваў мясцовым жыхарам слайды пра місіянераў, якія служаць у Афрыцы. Збіралася вельмі шмат людзей. Усе з зацікаўленасцю слухалі яго аповеды.



*Кс. Ежы ў родных мясцінах, у Акопах*

Меў таксама за шчасце амаль 2 апошніх тыдні лета 1984 года правесці разам з ім у Варшаве. Мы гулялі па горадзе, елі марожанае ў гістарычным цэнтры, шпацыравалі з сабакам Тайнякам. Гэта былі выключныя канікулы! Аднак, на жаль, тады я бачыў дзядзьку ў апошні раз…

***– Кс. Ежы часта бываў у родных мясцінах?***

– У пару "Салідарнасці" прыязджаў ненадоўга. Не меў тады шмат вольнага часу, паколькі актыўна ўдзельнічаў у грамадскіх справах.

***– У сям'і ведалі пра тое, што кс. Ежы моцна перажываў за лёс людзей і Бацькаўшчыны?***

– Я некалькі разоў быў з бацькамі на св. Імшах за Айчыну, якую дзядзька адпраўляў у жалібожскім касцёле ў Варшаве. Аднак часцей за ўсё падчас Эўхарыстыі мы знаходзіліся ў яго пакоі – для нашай жа бяспекі, паколькі існавала рызыка правакацыі. На шчасце, усё заўсёды абыходзілася спакойна.

***– У казаннях на св. Імшах за Айчыну кс. Ежы адкрыта змагаўся за правы і свабоды чалавека. Некаторыя лічаць гэта гераічным учынкам. Але ці не была гэта барацьба за тое, што з'яўляецца натуральным?***

– Кс. Ежы гучна казаў аб тым, аб чым большасць людзей у тыя часы баялася нават ціха думаць. Казаў аб праўдзе, любові і зняволенні камунай.

***– Ці разумеў ён, што адкрыта выступае супраць кіруючай камуністычнай партыі?***

– Кс. Ежы ніколі не асуджаў людзей. Заўсёды, калі яго пыталіся, гаварыў, што змагаецца "са злом, а не з ахвярамі зла". Галоўным яго дэвізам быў заклік св. апостала Паўла: "Не будзь пераможаны злом, але перамагай зло дабром" (Рым 12, 21). Адзінай зброяй была праўда і любоў. За гэта камуністы яго і зненавідзелі.



*Пахавальная працэсія ў лістападзе 1984 года*

***– Ксёндз дапускаў думку, што за абвяшчэнне праўды можа загінуць?***

– Напэўна, так. Узгадваў аб гэтым у адным з інтэрв'ю для заходняга тэлебачання. Аднак ні на хвіліну не збаяўся. Ведаў, што ён на баку праўды і мае падтрымку тысяч людзей.

***– Грамадства перажыло шок, калі даведалася пра забойства кс. Папялушкі. Верагодна, ён прадстаўляў велізарную сілу і моц, паколькі было вырашана пазбавіць яго жыцця такім жорсткім спосабам…***

– На пахаванне дзядзькі прыбыло больш за паўмільёна асоб. Гэта была вялізная мірная дэманстрацыя. Хацелася б адзначыць, што тады не было інтэрнэту, каб паведаміць пра месца і час пахавання. Мала хто меў дома нават тэлефон! Камуністы дэзінфармавалі людзей, падаючы розныя месцы пахавання. Але многія ўсё ж змаглі арганізавацца і за 3 дні прыехаць нават з самых аддаленых куткоў Польшчы.

***– У СМІ з'явілася інфармацыя, што вінаватыя ў яго смерці, якія трапілі пад амністыю яшчэ ў 90-ых гадах мінулага стагоддзя, зноў стануць перад трыбуналам. Як Вы думаеце, ці ўсведамляюць злачынцы, удзельнікамі якой драмы яны сталі?***

– Ведаю, што ІНП (*Інстытут нацыянальнай памяці* – ***заўв. рэд.***) распачаў следства аб фальшывым паклёпе і падкідванні абцяжваючых матэрыялаў у кватэру кс. Папялушкі па вул. Халодная ў Варшаве. Пасля гэтага выпадка ён быў арыштаваны і абвінавачаны ў дзейнасці супраць Польскай аб'яднанай рабочай партыі.

Безумоўна, забойцы бачаць, што іх план пацярпеў крах. Кс. Папялушка, якога павінны былі забыць хутка пасля смерці, прадаўжае жыць у памяці вернікаў. Пра гэта сведчаць дзесяткі вуліц і школ у краіне і за мяжой, названых яго імем. У многіх месцах адкрыты помнікі ці памятныя дошкі ў яго гонар. Рэліквіі святара можна знайсці ў святынях нават у самых аддаленых кутках свету. Ведаю, што яны знаходзяцца і ў некаторых парафіях Беларусі. Многія малітоўныя групы абіраюць кс. Ежы сваім заступнікам. Між іншым, ён таксама з'яўляецца апекуном супольнасці некалькіх дзесяткаў міністрантаў з Філіпінаў.

***– Якой асобай кс. Ежы застаўся ў памяці людзей?***

– Большасць з тых, хто ведаў ксяндза асабіста, памятае яго з усмешкай на твары, радаснага, нягледзячы на мноства абавязкаў, стомленасць і хваробы.

На працягу 3-ох гадоў у Акопах, роднай мясцовасці кс. Ежы, і Сухаволі ладзіцца гадавіна дня нараджэння святара. Яна заўсёды адзначаецца ў 2-ую суботу верасня. На сустрэчы збіраюцца асобы, якія асабіста былі знаёмы з кс. Ежы, каб расказаць пра яго іншым.

***– Як Вы лічыце, у якой ступені кс. Ежы паўплываў на пазнейшыя падзеі ў краіне? І ці паўплываў?***

– Яго смерць была пачаткам упадку камунізму ў Польшчы і ў свеце. Людзі перасталі баяцца кіруючую ўладу, бо ўсвядомілі, што калі штосьці такое ўчынілі з любімым вернікамі святаром, падобнае можа адбыцца з кожным. Пачаліся новыя забастоўкі.

Камуністы ведалі, што дні іх кіравання палічаны, таму прапанавалі перамовы за круглым сталом у Магдаленцы. Гэта быў іх апошні "выратавальны круг", таму выкарысталі яго. Кс. Ежы ў сваіх казаннях гаварыў пра дыялог і размовы, але не думаю, што на такіх умовах.

***– У падзямеллі касцёла ў Жалібожы ў Варшаве 15 гадоў таму быў адкрыты музей кс. Ежы Папялушкі. Сям'я перадала якія-небудзь рэчы для экспазіцыі?***

– Я быў на адкрыцці музея. Наша сям'я перадала шмат памятак, між іншым, калыску, сплеценую з лазы дзядулем, дзверы і акно з роднага дома ксяндза ў Акопах.

***– Ці засталіся ў сям'і рэчы, якія належалі слаўтуму сваяку і якія клапатліва захоўваюцца як памяць?***

– У нас засталося дастаткова шмат рэчаў, якія ў будучым з ахвотай перададзім музею ў Акопах. На дадзены момант мы прыкладваем шмат намаганняў, каб ён мог узнікнуць, бо ўпэўнены, што, каб бліжэй пазнаёміцца з асобай блаславёнага, трэба пазнаёміцца з асяроддзем, у якім ён рос, сталеў і распазнаваў сваё пакліканне.

Гэтай справай зараз актыўна займаецца фонд імя кс. Ежы Папялушкі "Дабро". Маем надзею, што цэнтр памяці паўстане ўжо ў хуткім часе.

*Ангеліна Пакачайла*

***"Мы павінны гаварыць праўду, калі іншыя маўчаць. Выражаць любоў і пашану, калі іншыя сеюць нянавісць. Маўчаць, калі іншыя гавораць. Маліцца, калі іншыя праклінаюць. Дапамагаць, калі іншыя не хочуць гэтага рабіць. Прабачаць, калі іншыя не здольны. Цешыцца жыццём, калі іншыя яго ігнаруюць".***

*Кс. Ежы Папялушка*



**Кс. Ежы Папялушка нарадзіўся 1 верасня 1947 года ў в. Акопы каля Сухаволі (Польшча). У 1972 годзе атрымаў прэзбітэрскія пасвячэнні. Падчас забастовак у 1980 годзе займаўся душпастырскай апекай у асяроддзі працаўнікоў Варшавы. Лічыўся адным з духоўных пастыраў прафсаюза "Салідарнасць", які знаходзіўся ў апазіцыі камуністычнаму рэжыму. З лютага 1982 года цэлебраваў св. Імшы за Айчыну, на якіх збіраліся вернікі з розных куткоў Польшчы. 19 кастрычніка 1984 года выкрадзены функцыянерамі службы бяспекі, жорстка закатаваны і ўтоплены ў р. Вісла. У 2010 годзе далучаны Касцёлам да ліку блаславёных.**

# За прыкладам любові – у Назарэт

***Сёлета 10-гадовы юбілей існавання ў Беларусі адзначае Асацыяцыя Святой Сям'і. Гэта суполка сем'яў пры Кангрэгацыі Сясцёр Найсвяцейшай Сям'і з Назарэта, мэтай якой з'яўляецца пашырэнне назарэтанскай духоўнасці сярод сужэнстваў.***



***Ідэя ўтварэння Асацыяцыі Святой Сям'і належыць заснавальніцы Кангрэгацыі Сясцёр Найсвяцейшай Сям'і з Назарэта бл. Францішкі Сядліскай, якая бачыла патрэбу далучэння да місіі супольнасці свецкіх людзей. Упершыню ажыццявіць гэтую ідэю ўдалося сёстрам назарэтанкам з Амерыкі ў 1985 годзе. На тэрыторыі Еўропы Асацыяцыя Святой Сям'і ўзнікла пасля 1990-ых гадоў. У Беларусі яна існуе з 2009 года. На дадзены момант Асацыяцыя дзейнічае ў 6-ці краінах свету і аб'ядноўвае каля 900 чалавек.***

## КАЛІ МАЛОЕ ЗЕРНЕ ДАЕ ВЯЛІКІ ПЛЁН

Адна з ініцыятараў паўстання Асацыяцыі Святой Сям'і ў Беларусі с. Марыяна Алешчык CSFN адзначае, што суполка дае свецкім людзям магчымасць жыць харызмай кангрэгацыі сясцёр назарэтанак і праз гэта дазваляе сёстрам больш поўна прысутнічаць у свеце.

***"Да Асацыяцыі могуць належаць сужэнцы, паўналетнія адзінокія асобы, удовы і ўдаўцы, што жадаюць актыўна ўключыцца ў дзейнасць нашай супольнасці і яе місію,*** – распавядае манахіня. – ***Першая сустрэча суполкі, якая праходзіла ў Смаргоні, была зусім сціплай. Яна сабрала толькі 7 чалавек: жанчын з дзецьмі. Відаць, мужчыны адправілі іх у разведку*** (смяецца ***– заўв. аўт.)".***

Сёння сустрэчы сем'яў пад кіраўніцтвам сясцёр адбываюцца ў Гродне, Лідзе, Навагрудку, Смаргоні, Глыбокім і Мінску. Назарэтанская фармацыя ў Беларусі налічвае каля 400 удзельнікаў. Усе яны пакліканы сведчыць пра важнасць хрысціянскіх каштоўнасцей сярод сваіх блізкіх, на працы і г. д. Штодзённа моляцца ў інтэнцыях кангрэгацыі сясцёр назарэтанак і Святога Айца, а таксама аб манаскіх і святарскіх пакліканнях. ***"Існуе яшчэ афіцыйная лічба ўдзельнікаў Асацыяцыі ў Беларусі – 20 чалавек. Гэта тыя людзі, якія прайшлі 2-гадовую фармацыю і публічна выразілі сваё жаданне далучыцца да АСС. Яны сталі часткай нашай назарэтанскай супольнасці, карыстаюцца духоўнымі дабротамі кангрэгацыі, не з'яўляючыся пры гэтым духоўнымі асобамі. Па меры сваіх магчымасцей удзельнічаюць у разнастайных ініцыятывах кангрэгацыі. Кожны з іх мае адмысловую адзнаку – значок Святой Сям'і",*** – адзначае сястра.

## ВЕРА РАЗВІВАЕЦЦА Ў СУПОЛЬНАСЦІ

Раз на месяц члены Асацыяцыі Святой Сям'і сустракаюцца разам, каб прыняць удзел у св. Імшы, адараваць Найсвяцейшы Сакрамант, выслухаць канферэнцыю, а пасля за кубкам гарбаты паразважаць над ёй у групах.

***"Існуе спіс тэм, прапанаваных нашай кангрэгацыяй для ўсіх суполак АСС у свеце. Напрыклад, у гэтым годзе распачалі цыкл сустрэч на тэму «Святая Сям'я – наш прыклад»,*** – распавядае манахіня. – ***Калі я гляджу на абраз Святой Сям'і, у першую чаргу, мяне ўражвае намаляваная ідылія. Маленькі Езус знаходзіцца пасярэдзіне, на руках у любячых бацькоў, гатовых служыць адзін аднаму. Да падобнай сямейнай гармоніі і павінен імкнуцца чалавек: злезці з самастойна ўзведзенага п'едэстала і паставіць Бога ў цэнтр свайго жыцця. Гэты пасыл імкнёмся данесці ўдзельнікам нашай суполкі".***



Сем'і з АСС святкуюць разам Новы год у кляштары сясцёр назартанак

Сёстры праводзяць таксама адмысловыя сустрэчы, на якія запрашаюць спецыялістаў у той ці іншай галіне: урачоў, псіхолагаў, інфарматыкаў... Манахіні хочуць, каб сем'і не толькі ўзрасталі ў веры, але і развіваліся рознабакова, атрымліваючы адказы на шматлікія хвалюючыя пытанні.



Абавязкова раз на год члены суполкі прымаюць удзел у тыднёвых рэкалекцыях і ўікэндавых сустрэчах восенню і вясной. ***"Прыходзіцца дзяліць спатканні на 2 туры: колькасць ахвотных да ўдзелу ўзрастае да 150-ці чалавек! На сустрэчы сужэнцы абавязкова прыязджаюць з дзецьмі, якіх мы заўсёды стараемся наблізіць да Бога, заняць цікавымі гульнямі. Увогуле, апошнія 9 гадоў мы ўсе разам адзначаем Новы год як адна вялікая сям'я",*** – заўважае сястра.



## ПРАГНУЧЫ СЯМЕЙНАЙ СВЯТАСЦІ

Маргарыта Аслаўская прызнаецца, што ўдзел у назарэтанскай фармацыі даў новае жыццё яе сужэнству. ***"Фармальна мы былі сям'ёй, але за 12 гадоў супольнага жыцця з мужам сталі адзін аднаму чужымі людзьмі. У перыяд глыбокага крызісу Госпад прывёў нас у Назарэт. З гэтага моманту пачалося ператварэнне майго ўяўлення пра хрысціянства. Я адкрыла вочы на свае памылкі і грахі, раскаялася і адчула моцнае жаданне выправіцца. Бог ратаваў і ачышчаў нашу сям'ю праз вялікія выпрабаванні. І сёння я хачу любіць свайго мужа, дзяцей і родных сапраўднай, хрысціянскай, ахвярнай, усёдаруючай любоўю",*** – дзеліцца жанчына.

Спадарыня Маргарыта адзначае, што ўдзел у Асацыяцыі дапамог ёй мужна і з радасцю прыняць тыя пастулаты, над якімі смяецца сучасны свет, але якія здольны ўтрымаць сям'ю разам. ***"Я шчаслівая быць мудрай мудрасцю Госпада, а не гэтага свету. Жыць згодна з запаведзямі Божымі, прызнаваць мужа галавой сям'і, захоўваць сужэнскую вернасць, быць адкрытай на патомства, выхоўваць дзяцей у любові, паслухмянасці і цнатлівасці,*** – распавядае жанчына. – ***Быць членам Асацыяцыі – не прывілей, а вялікая адказнасць. Я дала абяцанне перад Богам і людзьмі жыць духам Назарэта. І шчыра сведчу, што жыццё маёй сям'і змяняецца. Мы працягваем сутыкацца з цяжкасцямі, але цяпер разам з Госпадам праходзім праз іх. Разумеем, што самы вялікі выраз любові – жадаць адзін аднаму святасці і збаўлення".***



Практыка супольнай малітвы яднае сям'ю

## "А ДОМ НЕ ЎПАЎ, БО ПАСТАЎЛЕНЫ БЫЎ НА СКАЛЕ" (МЦ 7, 25)

Паводле афіцыйнай статыстыкі, у Беларусі за 2018 год на 6 тысяч шлюбаў прыйшлося 3 тысячы разводаў. Прычынай распаду шматлікай колькасці сужэнстваў с. Марыяна лічыць адсутнасць моцнага фундаменту ў сем'ях: ***"На жаль, сёння многія жывуць без Бога. А калі яны не прымаюць Госпада, дзе возьмуць сілы для барацьбы за сямейнае шчасце? Калі муж і жонка супольна практыкуюць сваю веру, яны маюць амаль поўную гарантыю, што не пакінуць адзін аднаго ажно да самай смерці".***

Манахіня ганарыцца тым, што за час існавання Асацыяцыі ў Беларусі ніводная са 120-ці сямей-удзельніц не распалася. ***"Было бачна, што многія перажывалі цяжкія моманты, некаторыя і па сёння вядуць барацьбу за сваё шчасце. Але яны разам, і гэта галоўны вынік нашай дзейнасці",*** – падсумоўвае сястра.

*Ангеліна Марцішэўская*

---

**З КАТАЛІЦКІХ СМІ**

CATHOLIC.BY

### *У абарону традыцыйнай сям'і*

***У сувязі з небяспекай прапаганды аднаполых зносін сярод непаўналетніх Касцёл у Беларусі заклікае грамадства да захавання Божага права і натуральнага закону.***

*Экспертная рада па пытаннях жыцця і сям'і пры Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі выказваецца ў падтрымку агульнанацыянальнага збору подпісаў пад зваротам да прэзідэнта аб прыняцці адмысловай праграмы ў абарону традыцыйнай сям'і. У падрыхтаваным звароце заканадаўцы заахвочваюцца да прыняцця законаў у адпаведнасці з вечна актуальнымі этычнымі нормамі.*

*Першая падобная акцыя прайшла ў мінулым годзе. За 2 тыдні было сабрана больш за 7 тысяч подпісаў.*

Aleteia

### *Абраз з кухні*

***Калі жанчына з мясцовасці Кампʼень (Францыя) вырашыла прадаць абраз, які шмат гадоў вісеў у яе на кухні, высветлілася, што гэта мастацкі шэдэўр.***

*Эксперты не сумняваюцца, што абраз выйшаў з-пад рукі творцы перыяду Протарэнесансу Чымабуэ. Датуемы 1280 годам, ён даўно лічыўся згубленым. Сёння абраз ацэнены ў 6 мільёнаў еўра і трапіць на аўкцыён.*

*Твор пад назвай "Высмеяны Хрыстос" з'яўляецца часткай вялікага дыптыха, які адлюстроўвае 8 сцэн з мукі і ўкрыжавання Пана Езуса. 2 іншыя абразы знаходзяцца "пад апекай" музеяў: "Беззаганную з Дзіцём і двума анёламі" можна ўбачыць у Лонданскай Нацыянальнай галерэі (Вялікабрытанія), а "Бічаванне Хрыста" – у калекцыі Фрыка ў Нью-Ёрку (ЗША).*

niedziela
TYGODNIK KATOLICKI

### *Польшча для Афрыкі*

***Больш за 10 тысяч шчотак і амаль 8 тысяч зубных паст атрымалася сабраць у межах акцыі "для дзяцей з Чада".***

*Акцыю зладзіў душпастырскі аддзел Плоцкай дыяцэзіяльнай курыі разам з Місійнай дыяконіяй руху "Святло-Жыццё" Плоцкай дыяцэзіі. Да яе далучыліся школы, парафіі і рэлігійныя таварыствы.*

*Ідэя мерапрыемства ўзнікла ў сувязі з трываючым у Паўсюдным Касцёле Надзвычайным місійным месяцам. Сабраныя падчас акцыі рэчы будуць адпраўлены ў місію Байкара ў Чадзе.*




### Ці цяжка вучыцца ў семінарыі?

*Духоўныя семінарыі, дыяцэзіяльныя і манаскія, – гэта фармацыйныя месцы і, найперш, супольнасці ў дарозе (параўн. Ян Павел ІІ, Pastoresdabovobis, 60). Згодна з мэтай, духоўную семінарыю можна лічыць працягам супольнасці апосталаў, сабраных вакол Езуса Хрыста, якія слухалі Яго словы, перажывалі Пасху (таямніцу збаўчай мукі, смерці і ўваскрасення), чакалі дару Святога Духа, каб пазней пайсці з даручанай ім місіяй (пасланне і заданне).*

*Сам працэс вучобы ў семінарыі складаецца са слухання лекцый, практычных заняткаў, самападрыхтоўкі, залікаў, экзаменаў ды іншых адукацыйных момантаў, падобных ці такіх жа, як у шматлікіх вышэйшых навучальных установах. Аднак семінарыя – гэта месца, дзе студэнты не толькі здабываюць веды, але, перш за ўсё, адказваюць на звышнатуральны дар паклікання і крочаць за Хрыстом, які выбраў іх ды надзяліў усім патрэбным, каб на гэты дар адпаведна адказаць.*

*Часам семінарыю слушна называюць "Школай Хрыста". Тут кандыдаты да святарства пад кіраўніцтвам рэктара і іншых членаў семінарыйнай супольнасці штодня, з'яднаныя моцаю Святога Духа, братэрскімі повязямі, згодна з атрыманым дарам імкнуцца ўзрастаць у веры і любові, моляцца, чытаюць і разважаюць над Божым словам, каб працягваць збаўчую прысутнасць Хрыста ў Касцёле і ў гісторыі.*

*Часта чалавеку можа перашкаджаць страх перад будучыняй, асабліва калі яна здаецца вельмі складанай. Ідучы ў семінарыю ці кляштар, вернік крочыць за Хрыстом, таму ніколі не застанецца адзін. Моц Святога Духа і Божая ласка заўсёды будуць яму спадарожнічаць.*

*Св. апостал Павел пісаў, што ўсё можа ў Тым, хто яго ўзмацняе (параўн. Флп 4, 13). Гэтыя словы варта аднесці да семінарыйнай фармацыі. Кожны семінарыст і святар могуць засведчыць, што і перад прыняццем рашэння ісці ў семінарыю, і на працягу падрыхтоўкі да святарскага служэння ёсць такія сітуацыі, калі сам Бог дапамагае і дадае сіл.*

*Напрыканцы трэба зазначыць, што не кожны можа быць святаром ці кансэкраванай асобай. Бог выбірае чалавека да служэння, надзяляе паклiканага ўсімі неабходнымі якасцямі і здольнасцямі для таго, каб той мог фарміравацца, вучыцца, а пазней выконваць даручаныя ў Касцёле заданні. Бог таксама шануе чалавечую свабоду і нікога не прымушае выконваць Яго волю.*

*Не варта і "заахвочваць" кагосьці ісці ў кляштар ці да святарства, абяцаць нешта дачаснае, прыцягваць. Можна спадарожнічаць чалавеку, служыць парадай, падтрымкай і, канешне, малітвай. У духоўных семінарыях Хрыстос чакае тых, каго сам выбірае і кліча ісці за сабою.*

*А. Аркадзь Куляха OCD*
***Паводле catholicnews.by***




# Малітва і дзеянне

Мінулым разам мы разважалі аб актуальнасці Святога Пісання. Калі чалавек успрымае Божае слова не як інфармацыю ці добрае пажаданне, але як сённяшняе пытанне, заклік, прапанову, якая прадугледжвае асабісты адказ, тады біблійны тэкст адкрывае сваё прагматычные вымярэнне, тады гэта прыносіць плён. Таму, як адзначае папа Бенедыкт XVI, "lectio divina ў сваёй дынаміцы не заканчваецца, пакуль не прывядзе да дзеяння (actio), якое чыніць, што жыццё веруючага становіцца дарам для іншых у любові" (Verbum Domini, 87).

На першы погляд, шлях ад малітвы да актыўнасці здаецца даволі кароткім: закрыў Біблію, устаў і пачаў дарыць сябе ў любові. Канешне, Бог можа даць яснае бачанне наступнага кроку, і тады важна не марудзіць і не адкладваць. Аднак звычайна нам патрэбны некаторы час і трываласць у малітве. Напэўна, многім знаёмае глыбокае выказванне св. Яна ад Крыжа: "Пад вечар жыцця мы будзем асуджаныя з любові". Для любові няма дакладных вызначэнняў, але мы выдатна адчуваем, калі яе не хапае.

Возьмем, напрыклад, толькі адзін верш з Бібліі. "Ты каштоўны ў Маіх вачах" (параўн. Іс 43, 4), – гаворыць Пан. Каб гэтыя словы прывялі да канкрэтных учынкаў, яны павінны стаць малітвай. І таму мы адкрываемся на Божую прысутнасць і ўсім сэрцам просім дапамогі Святога Духа, каб адважыцца пачуць і прыняць глыбіню тых слоў, якія Ён прамаўляе асабіста да кожнага:

***ты***
***каштоўны***
***ў Маіх вачах.***

Бывае, што сэрца так "счарсцвела", што трэба яму паўтараць і паўтараць. Няхай жа словы Пана рэхам прагучаць унутры:

***я***
***каштоўны***
***ў Тваіх вачах.***

Я – такі вось наяўны, не міфічна прыгожы, я – да дна, дарэшты – каштоўны і важны. Гэтая годнасць неад'емная, яна не залежыць ні ад людскіх, ні нават ад уласных ацэнак. У Тваіх вачах... Якія Твае вочы, Пане? Якія вочы ў Любові?

Вось толькі невялікі прыклад малітоўнага разважання, у якім абмінуты ўвагай некаторыя этапы, у прыватнасці, гістарычны кантэкст прароцва. Несумненна, для лепшага разумення карысна ведаць, да якой супольнасці і ў які час Бог звяртаецца са сваім Словам. Аднак сам па сабе гэты факт не заклікае да асабістага дзеяння.

Калі ж гэтыя словы становяцца малітвай, з'яўляецца магчымасць пачуць, як Бог прамаўляе кожнае імя: "..., ты каштоўны/ая ў Маіх вачах". Перажыванне, пражыванне Божых слоў тут і цяпер будуць уплываць на мой адказ, на рух душы. Гэта будзе азначаць высілак, часам дакучлівы, балючы або палохаючы, як скок у невядомае. І дзе, як не ў малітве, прыйдзе разуменне, што мы баімся дарэмна? Бо выканаць Божую волю – значыць рэалізаваць найглыбейшыя прагненні сэрца.

Паверыць у Божую любоў – вялікая ласка. Каб атрымаць яе, магчыма, трэба маліцца гэтым урыўкам не адзін дзень, вяртацца да яго, бачыць і радавацца знакам Божай прысутнасці ў будзённым жыцці. Са здзіўленнем глядзець на іншых людзей, гэтак жа бясконца любімых, і задавацца пытаннем: "Пане, як мне любіць сябе і іх так, як Ты?".

Чытанне і слуханне Божага слова дапамагае "слухаць" і "чытаць" рэчаіснасць. Пасля адкрытай і глыбокай малітвы змяняецца ўспрыманне падзей, абавязкаў, патрэб, мэт. Нават тое, што даўно стала руцінай, напаўняецца новым духам. Прагненне дзейсна адказаць на Божую любоў вядзе да жадання наследаваць Пана, пераймаць Яго погляд, каб вера станавілася компасам жыцця.

Несумненна, дапамогай у адшуканні спосабаў дзеяння могуць стаць прыклады святых і благаслаўлёных. Як яны жылі Евангеллем, рэалізавалі гэтае actio? Найперш, як падказвае нам папа Бенедыкт XVI, "трэба глядзець на Тую, у якой дасканала выявілася сувязь паміж Божым словам і верай – на Панну Марыю [...]. Яе паслухмяная вера фарміруе кожную хвіліну Яе жыцця адносна ініцыятывы Бога. Дзева, якая ўважліва слухае, жыве ў поўнай гармоніі з Божым словам; захоўвае ў сваім сэрцы падзеі з жыцця свайго Сына, нібы выкладваючы з іх адну мазаіку" (Verbum Domini, 27). Марыя "ў вялікім Божым плане ўмела заўважыць глыбокую думку, якая яднае падзеі, чыны і рэчы на першы погляд не звязаныя адно з адным" (Verbum Domini, 87).

Якія прыгожыя вобразы: выкладванне мазаікі, звязванне ў адзінае цэлае і адказ усім сваім жыццём. Можна назваць гэта майстэрствам ткаць з паасобных каляровых нітак цудоўнае ўзорнае палатно. Адзін фрагмент, нават адзін радок з Кнігі Кніг, якім мы молімся, з'яўляецца нібы ніточкай. Выглядае тонкай і няважнай, але, уплеценая ў нашу штодзённасць, можа стаць пачаткам новага ўзору. Нічога, калі вачам ён пакуль недасяжны. Даверымся вачам Таго, хто глядзіць на нас з любоўю.

*Тэрэса Клімовіч*




***Кл. Андрэй Юхнік,** алюмн IV курса Гродзенскай ВДС, паходзіць з парафіі Святой Сям'і ў Лідзе*

# Нічога не рабіць без Хрыста!

**Я лічу, што кожную справу, абавязак, працу і вучобу трэба давяраць Езусу. Інакш усе намаганні будуць марнымі і не прынясуць сапраўднай радасці ад крочання за Хрыстом.**

### ПРА ПАКЛІКАННЕ

Голас Езуса я пачуў, як толькі стаў міністрантам – у 5 класе. Гэта быў пакуль што заклік шэптам, бо сам яшчэ не задумваўся над будучыняй. Паволі стаў больш цікавіцца жыццём Каталіцкага Касцёла і яго гісторыяй.

Святар, які займаўся дзецьмі і моладдзю ў нашай парафіі, прысвячаў шмат часу і сіл на тое, каб паглыбляць веру маладых людзей. Галоўнае, чаму ён мяне навучыў, – павазе і любові да Эўхарыстыі. Так з гадамі я ўсё больш выразна адчуваў, што таксама, як святар, хачу прысвяціць сябе служэ на жніве Пана; таксама хачу працаваць з людзьмі і дапамагаць ім у пошуках жывога Езуса Хрыста; таксама хачу адпраўляць св. Імшу. Размовы са святарамі ўсё больш падмацоўвалі маё рашэнне стаць па іх прыкладзе душпастырам.

### ПРА БАЦЬКОЎ

Вельмі шмат мне дала сям'я. Бацькі з малога прывучылі да малітвы. Выхоўвалі мяне ў хрысціянскім духу і перадавалі веру, якую самі вызнавалі. За гэта цяпер ім бязмежна ўдзячны.

### ПРА СЕМІНАРЫЮ

Часта мы называем семінарыйную супольнасць сям'ёй. Тут вучымся быць адзін аднаму братамі: падбадзёрыць добрым словам у цяжкую хвіліну, а калісьці і зрабіць заўвагу. Вучымся паважаць адзін аднаго. А калі будзем умець любіць і шанаваць членаў супольнасці, палюбім і людзей, да якіх будзем пасланы.

### ПРА НЕЗАБЫЎНЫЯ МОМАНТЫ

Улетку мне пашанцавала праходзіць літургічна-душпастырскую практыку ў Шчучыне падчас "Канікул з Богам". Для мяне гэта быў першы вопыт працы з моладдзю і дзецьмі ажно ў такім сур'ёзным маштабе. Думаю, атрыманы досвед застанецца ў памяці на ўсё жыццё! Людзі, якіх сустрэў, назаўжды пасяліліся ў маім сэрцы.

Важнай падзеяй сталі таксама апошнія рэкалекцыі для юнакоў, якія ладзіліся ў семінарыі. Сустрэчы і праца з маладымі людзьмі не могуць не матываваць да нястомнага паглыблення сваіх ведаў і веры. Бо проста сустрэцца і пагаварыць з хлопцамі – адно, адная як семінарыст я павінен падзяліцца з імі нечым большым...

### ПРА ЛЮДЗЕЙ

Мяне захапляюць сустрэчы з людзьмі. Я бачуся з імі ў парафіі, падчас практык, на катэхезах. Кожная сустрэча пакідае нейкі след у памяці. Вучышся слухаць і чуць іншага чалавека, быць адкрытым на яго патрэбы. Заўсёды ёсць, што пераняць ад бліжняга, бо ўсе людзі носяць у сабе нейкую мудрасць.

### ДУМАЮ, ШТО...

Семінарыст не можа заставацца на тым узроўні, на якім ён быў, калі толькі прыйшоў у семінарыю. Павінен прыкладваць усе магчымыя сілы, каб не заглушыць голас Пана ў сваім сэрцы, а чуць яго яшчэ больш дакладна. І гэта датычыць не толькі духоўнай фармацыі, але і інтэлектуальнай, чалавечай, пастырскай.

## НАВІНЫ



### ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНАЯ СУСТРЭЧА ПРАЦАЎНІКОЎ АСВЕТЫ

У санктуарыі Маці Божай Каралевы Нашых Сем'яў у Тракелях (дэканат Радунь) адбылася дыяцэзіяльная сустрэча выкладчыкаў, настаўнікаў і выхавацеляў. Арганізаваная лакальным душпастырствам, яна сабрала больш за 150 асоб з розных парафій Гродзеншчыны.

У межах сустрэчы ўдзельнікі выслухалі канферэнцыю душпастыра кс. каноніка Антонія Грэмзы на тэму "Супольнасць Касцёла як месца сустрэчы з Езусам і іншым чалавекам". Святар падкрэсліў, што, каб Касцёл заставаўся месцам сустрэчы з Богам і чалавекам, неабходна адпаведная падрыхтоўка вернікаў да годнага прыняцця святых сакрамантаў і іх плённага перажывання.

Члены душпастырства мелі нагоду папрацаваць у групах на тэму ролі настаўніка ў супольнасці Касцёла, парафіі, школы і сям'і. Праграма ўключала таксама адарацыю Найсвяцейшага Сакраманту, падчас якой усе разам даручылі Пану Богу новы навучальны год і сваіх навучэнцаў.

Кульмінацыяй сустрэчы стала св. Імша, якую ўзначаліў дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі. Іерарх ад імя Касцёла падзякаваў усім, хто займаецца адукацыяй дзяцей і моладзі, а таксама заахвоціў прысутных, каб штодзённа ў навучальных установах яны былі аўтэнтычнымі сведкамі Езуса Хрыста.

### ВЫШЭЙШАЯ ДУХОЎНАЯ СЕМІНАРЫЯ



У Гродзенскай ВДС урачыстай інаўгурацыяй распачаўся новы навучальны год. На ўрачыстасць прыбылі Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі абп Тадэвуш Кандрусевіч, біскуп Віцебскі Алег Буткевіч, біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч і дапаможны біскуп дыяцэзіі Юзаф Станеўскі. Спярша прайшла інаўгурацыйная лекцыя, пасля якой алюмнам I курса ўручылі залікоўкі. Затым у семінарыйнай капліцы адбылася св. Імша.

### БІСКУПСКІЯ ВІЗІТАЦЫІ



Гродзенскія біскупы наведваюць з кананічнай візітацыяй парафіі дэканата Шчучын.

Біскуп Аляксандр Кашкевіч асвяціў новы крыж у в. Еўлашы (парафія Лядск). Біскуп Юзаф Станеўскі падчас побыту ў парафіі Астрына сустрэўся з бацькамі духоўных асоб, якія паходзяць з гэтай мясцовасці.

### ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНЫЯ ДУШПАСТЫРСТВЫ



У будынку Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне прайшла сустрэча Апостальства вечнай малітвы за святароў "Маргарытка" Гродзенскай дыяцэзіі. Яе ўзначаліў духоўны айцец семінарыі і адказны за малітоўны рух кс. Ян Сарэла.

Малітоўным чуваннем у Капцёўцы (дэканат Гродна-захад) душпастырства студэнтаў і старэйшай моладзі "OPEN" адзначыла 13 гадоў свайго існавання. З гэтай нагоды ў санктуарыі Маці Божай, Цярпліва Слухаючай, на Узгорку Надзеі душпастыр кс. канонік Антоній Грэмза ўзначаліў св. Імшу.



### АДНЫМ РАДКОМ

• Дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Юрый Касабуцкі ўдзяліў сакрамант канфірмацыі вернікам парафіі Белагруда (дэканат Ліда). • У XV Турніры па міні-футболе памяці св. Яна Паўла II у Слоніме перамагла каманда з Докшыцаў. • Інтэграцыйны пакой для дзяцей і моладзі адкрыты пры парафіі ў Росі (дэканат Ваўкавыск). • Біскуп Аляксандр Кашкевіч асвяціў адноўленую капліцу былога маёнтка Чамброва на Навагрудчыне. • Біскуп Юзаф Станеўскі асвяціў гістарычную капліцу на могілках у в. Паляны (дэканат Ашмяны). • У Гродне прайшла малітоўна-інтэграцыйная сустрэча піярскіх студэнтаў і старэйшай моладзі. • Інтэграцыйны выезд для азнаямлення з грэка-каталіцкай культурай зладзілі айцы піяры для міністрантаў са Шчучына. • Кс. Юрый Бяганскі, кусташ тракельскага санктуарыя, абараніў у Люблінскім каталіцкім універсітэце доктарскую дысертацыю на тэму "Літургічная рэформа і аднаўленне на тэрыторыі Гродзенскай дыяцэзіі пасля II Ватыканскага Сабору". • 495-годдзе пабудовы святыні адзначылі ў Гнезне (дэканат Ваўкавыск). • У кляштары сясцёр кармэлітак у Гудагаі (дэканат Астравец) прайшлі дні малітвы для дзяўчат. • 30-ую гадавіну вяртання парафіяльнай святыні вернікам адзначылі ў Раготне (дэканат Дзятлава). • Дабрачынны канцэрт і творчы вечар адбыліся пры парафіі св. Міхала Арханёла ў Навагрудку. • Дыяканскія пасвячэнні прынялі бр. Максім Лабкоў, рэдэмптарыст, з Парэчча (дэканат Гродна-усход) і бр. Ігнат Падарэцкі, кармэліт, з Гудагая (дэканат Астравец). • Група вернікаў з Сапоцкіна прыняла ўдзел у Архідыяцэзіяльным дні Эўхарыстыі ў Сакулцы (Польшча).

*Агляд навін падрыхтаваны на падставе інтэрнэт-старонкі* ***grodnensis.by***.

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**13 кастрычніка 1992 г.** – кс. Валянцін Кублік SJ, *душп. Індура;*
**20 кастрычніка 1982 г.** – кс. Чэслаў Янкоўскі, *проб. Мінойты;*
**22 кастрычніка 1961 г.** – кс. Ян Жыткевіч, *проб. Квасоўка;*
**24 кастрычніка 1967 г.** – кс. Іпаліт Ядкоўскі, *проб. Воўпа;*
**25 кастрычніка 1993 г.** – кс. Ян Адамовіч,
*проб. Краснае, Мінск – Цудзенішкі.*

## АНОНСЫ

### ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНАЯ СУСТРЭЧА ЧЛЕНАЎ ЖЫВОГА РУЖАНЦА АДБУДЗЕЦЦА Ў КАПЦЁЎЦЫ

**Яна пройдзе ў санктуарыі Маці Божай Яснагорскай, Цярпліва Слухаючай, на Узгорку надзеі 26 кастрычніка.**

Запрашаюцца святары, кансэкраваныя асобы, адказныя і ўдзельнікі ружанцовага малітоўнага руху.

**Праграма:**

11.00 – прывітанне;
– выстаўленне Найсвяцейшага Сакраманту (магчымасць прыступіць да споведзі);
– Ружанец;
– перапынак;
12.15 – канферэнцыя;
13.00 – Крыжовы шлях;
14.00 – св. Імша;
15.00 – абед, заканчэнне сустрэчы.

*Аб удзеле ў спатканні неабходна загадзя паведаміць кс. Міхалу Ластоўскаму, дыяцэзіяльнаму мадэратару колаў Жывога Ружанца Гродзенскай дыяцэзіі і кусташу санктуарыя ў Капцёўцы, па тэлефоне: (8 029) 116-87-26.*

### ПАРАФІЯ Ў ВАЎКАВЫСКУ АРГАНІЗУЕ ПІЛІГРЫМКУ Ў ПОЛЬШЧУ

**Маршрут пралягае да санктуарыяў Маці Божай Балеснай у Ліхені і Маці Божай Чанстахоўскай на Яснай Гары.**

Пілігрымка адбудзецца 15–17 лістапада.

*Атрымаць падрабязную інфармацыю і запісацца можна па тэлефоне: (8 029) 313-65-64 – кс. канонік Алег Дуль, пробашч парафіі св. Станіслава Косткі ў Ваўкавыску.*

### У ГРОДНЕ ПАЧЫНАЮЦЦА ФАРМАЦЫЙНЫЯ СУСТРЭЧЫ ШКАПЛЕРНАГА БРАЦТВА

**Яны будуць праходзіць у парафіях Найсвяцейшага Адкупіцеля (Дзевятоўка) і Маці Божай Вастрабрамскай (Аўгустовак) 2 і 30 лістапада, 4 студзеня, 1 лютага, 7 сакавіка, 4 красавіка, 2 мая і 6 чэрвеня.**

Айцы кармэліты, якія праводзяць гэтыя сустрэчы, запрашаюць усіх, хто носіць святы шкаплер Марыі з гары Кармэль, а таксама ўсіх, хто цікавіцца кармэліцкай духоўнасцю і прагне наследаваць цноты Маці Божай у сваім штодзённым жыцці. Заахвочваюцца і жадаючыя атрымаць шкаплер з рук айцоў кармэлітаў, што можна зрабіць падчас кожнай сустрэчы.

*Больш падрабязную інфармацыю можна атрымаць па тэлефоне: (8 044) 589-68-98 – а. Аляксандр Стока OCD.*

### ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНЫ ХОР "CANTATE DOMINO" АДЗНАЧЫЦЬ СВАЁ 20-ГОДДЗЕ

**З нагоды юбілею 22 лістапада ў 19.00 у гродзенскай катэдры будзе адпраўлена св. Імша.**

Пасля адбудзецца канцэрт хору пад кіраўніцтвам Генрыха Давідовіча, нязменнага кіраўніка і дырыжора "Cantate Domino".

*Сардэчна запрашаем!*

## Каляндар падзей

***15 кастрычніка***
*Успамін св. Тэрэзы ад Езуса, панны і доктара Касцёла.*

***17 кастрычніка***
*Успамін св. Ігнацыя з Антыёхіі, біскупа і мучаніка.*

***18 кастрычніка***
*Свята св. евангеліста Лукі, заступніка службы аховы здароўя. Молімся ў інтэнцыі ўрачоў, медсясцёр і працаўнікоў бальніц і хоспісаў.*

***20 кастрычніка***
*Сусветны місійны дзень. Молімся за місіянераў, якія нясуць Езуса Хрыста ўсім, хто Яго не знае, каб Бог умацоўваў іх сілы і намаганні ў паслузе Касцёлу.*

*У кастрычніку заахвочваем да ружанцовай малітвы ў касцёлах, капліцах і сем'ях.*

## Ружанцовыя інтэнцыі

***Кастрычнік***
*Аб даху над галавой для бяздомных і працы для беспрацоўных.*
*Аб шчодрым духоўным плёне Дыяцэзіяльнага сінода.*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***"Голас Евангелля"***
*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім. Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё.*

***Інтэрнэт-партал Гродзенскай дыяцэзіі grodnensis.by***
*Асвятленне падзей з жыцця Касцёла на Гродзеншчыне. Даступны фота- і відэаматэрыялы.*

Дзіцячы кутočак

# Мучаніцтва за Хрыста

***Прывітанне, Маленькі Чытач!***
***Ты, напэўна, бачыў, што часта на св. Імшу святар выходзіць апрануты ў чырвоную вопратку. Чаму так? Гэта значыць, што ў літургіі ўспамінаецца адзін альбо некалькі мучанікаў.***
***Хто ж такія мучанікі?***

*Падчас свайго зямнога служэння Пан Езус прадказваў сваім паслядоўнікам: "Калі Мяне праследавалі, будуць праследаваць і вас" (Ян 15, 20b). У той жа час абяцаў вялікую ўзнагароду гнаным за Яго імя: "Шчаслівыя вы, калі будуць вас зневажаць, праследаваць і ўсяляк зласловіць несправядліва за Мяне. Радуйцеся і весяліцеся, бо вялікая ўзнагарода ваша ў нябёсах" (Мц 5, 11–12а).*

*Хто з-за сваёй веры і любові да Хрыста церпіць і аддае сваё жыццё Богу, называецца мучанікам. У перакладзе з грэчаскай мовы слова "мучанік" значыць "сведка". Першымі сведкамі хрысціянскай веры былі апосталы, якія абвяшчалі Евангелле далёка за межамі Святой Зямлі. Першым мучанікам стаў святы Стэфан. Калі яго білі камянямі за веру, усклікнуў моцным голасам: "Пане, не залічы ім граху гэтага". Падобныя словы вымавіў Хрыстос, калі маліўся за тых, хто Яго крыжаваў: "Ойча прабач ім, бо не ведаюць, што робяць" (Лк 23, 34). Вялікае цярпенне мучанікаў і тое, што яны прабачалі сваім катавальнікам, часта прыводзіла да прыняцця хрысціянства шматлікіх сведкаў такога подзвігу.*

*Першым хрысціянам даводзілася жыць і прапаведаваць Евангелле ва ўмовах жорсткіх ганенняў з боку ўлад і народа. Для людзей няверуючых альбо тых, хто верыў у іншых багоў, хрысціянская вера была незразумелай і небяспечнай, бо іх жыццё было нязгодным з наказамі Хрыста. Праследаванне пачалося ў часы праўлення імператара Нерона ў сярэдзіне І стагоддзя ад Нараджэння Хрыстова. Бязлітасны кіраўнік скарыстаўся выпадкам буйнога пажару ў Рыме і абвясціў вінаватымі хрысціян. Народ, які мала ведаў пра хрысціянства і ўяўляў яго сабе як небяспечную секту, з гатоўнасцю падтрымаў крывавыя расправы над вернікамі. Іх палілі на вогнішчах, кідалі галодным дзікім жывёлам, катавалі на крыжах. Найбольш жорсткія ганенні адбыліся падчас панавання імператара Дыяклетыяна ў канцы ІІІ стагоддзя і ў наступныя гады. Хрысціян прымушалі адмаўляцца ад сваёй веры і прыносіць ахвяры паганскім багам.*

*На жаль, і ў сучасным свеце працягваюцца ганенні хрысціян. Штогод сотні паслядоўнікаў Езуса Хрыста падвяргаюцца праследаванням і пакаранням смерцю. У некаторых краінах прыняцце хрысціянства караецца дзяржаўным заканадаўствам, а ў некаторых хрысціян зневажаюць і забіваюць агрэсіўна настроеныя грамадзяне. Прычыны ганенняў і нянавісці ў розныя стагоддзі і ў розных краінах адрозніваюцца, але агульнай для ўсіх мучанікаў застаецца іх стойкасць і вернасць Богу.*

*Дарагі Маленькі Чытач! Кожны хрысціянін павінен сведчыць аб сваёй веры ў Хрыста. Часам штодзённае мучаніцтва можа быць цяжэйшым, чым смерць. Сюды можна аднесці цярпенні, звязаныя з бояззю адказнасці, нязручнасцямі, складанымі справамі. Штодзённае мучаніцтва перажываецца ў сітуацыі, калі тыя, каго мы любім, не любяць нас; калі той, на каго спадзяёмся, аказваецца слабейшым; калі цяжка прыняць свае абавязкі альбо адмовіцца ад таго, што б мы хацелі мець; калі трэба пастаянна прыкладваць намаганні, каб жыць паводле сумлення і Божых запаведзяў. Гэта таксама вернасць сабе і сваім перакананням, нягледзячы на нязгоду сяброў і грамадства.*

*Няхай Пан Бог заўсёды дае мужнасць, каб маглі быць Яго сведкамі. Няхай дазволіць нам жыць хрысціянскай надзеяй, асабліва ва ўкрытым мучаніцтве – сумленным выкананні паўсядзённых абавязкаў.*

**Заданне:** ***пазнаёмся з біяграфіямі святых мучанікаў, абяры аднаго з іх сваім апекуном і маліся праз яго заступніцтва, каб дапамагаў Табе быць мужным вызнаўцам Хрыста.***

*С. Вераніка Блізнюк FMA*

# Ад шчырага сэрца

**Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Аляксандру Кашкевічу**

шчыра дзякуем, што раздзялілі нашу радасць з нагоды юбілею парафіі. Мы ўдзячны Вам за нашага пробашча ксяндза Рамана Ялоўчыка, добрага гаспадара і душпастыра, які любіць Пана Бога, дбае пра даручаны яму касцёл і заўсёды ветлівы да людзей. Няхай добры Бог Вас благаслаўляе і ўзмацняе, а штодзённая паслуга прыносіць радасць.

*Удзячныя вернікі з парафіі св. Міхала Арханёла ў Гнезне*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Паўлу Звяжынскаму**

з нагоды 20-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў складаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя на доўгія гады, спакою і Божай міласэрнасці. Няхай святло Хрыста асвячае Ваш святарскі шлях, а Маці Божая вядзе найлепшай дарогай да святасці і ахінае сваёй апекай. Мы ўдзячны Пану, Вашай сям'і, а асабліва маме, і ўсім, хто стаяў ля вытокаў Вашага шляху. Шчыра дзякуем за тое, што Вы нясеце нам радасць Евангелля, каб мы трывалі ў Хрысце і ішлі за Ім. Дзякуем за паслугу ў нашай парафіі, за добрае сэрца, веру і любоў да людзей.

*З павагай і малітвай апостальскі рух "Маргарытка", Жывы вяночак міласэрнасці і вернікі з парафіі св. Юрыя ў Варнянах і Вароне*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Алегу Шпеню**

з нагоды 20-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў перасылаем сардэчныя віншаванні і словы ўдзячнасці. Дзякуем Пану Богу за дар святарства, а Вашай маме – за тое, што, нягледзячы на шматлікія цяжкасці, выхавала і на працягу ўсяго часу Вашай паслугі ў нашай супольнасці з'яўляецца ахвярнай дабрадзейкай. Дзякуем за неацэнную працу па духоўным і матэрыяльным аднаўленні парафіі, за душпастырскую апеку, нястомную малітву і за тое, што ў хвіліны радасці, смутку і жалю Вы заўсёды побач. У сваіх малітвах мы за ўсё гэта дзякуем Пану Богу і просім аб здароўі, апецы Найсвяцейшай Панны Марыі і ўсіх святых, аб патрэбных ласках і Божым благаслаўленні для Вас і Вашых блізкіх.

*Вернікі з касцёла Апекі НПМ у Дайлідках*

**Паважанаму Ксяндзу Каноніку Юзафу Багдзевічу**

з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, дабра, радасці і душэўнага супакою. Няхай кожны новы дзень будзе асвечаны Божым благаслаўленнем і напоўнены Яго ласкамі, Святы Дух нястомна спасылае свае дары, а Маці Божая ахінае любоўю і вядзе найпрыгажэйшай сцежкай да Сына. Сардэчна дзякуем Вам за ахвярную службу Богу і людзям, а таксама за клопат пра наш касцёл.

*Удзячныя вернікі з парафіі свсв. Космы і Дам'яна ў Астраўцы*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Ігару Анісімаву**

з нагоды 45-годдзя складаю сардэчныя пажаданні.

Поздравить Вас, Ксёндз Игорь, с Днём рождения
Мне бы хотелось искренне, с душой.
Чтоб Бог послал Вам новых вдохновений
И озарял всегда Ваш путь земной.
45 – ведь вроде бы немного...
Но Вы успели главное найти:
Избрав для жизни Господа дорогу,
Смогли Вы множество людей спасти.
Вы как орудие в руках Господних,
Ведь через Вас спасает Бог людей,
Пусть наш Господь всегда в моментах сложных
Наполнит разум мудростью своей!
45 – ещё не половина.
Желаю Вам не меньше, чем 100 лет!
Чтоб старость не была Вам ощутимой
И в полном здравии дарили людям Свет,
Которым Вас Иисус Христос наполнил.
Бог стать священником когда-то поручил,
Любовью и добром своим заполнил,
Любить всех-всех людей Вас научил.
Желаю Вам побольше улыбаться:
Улыбка дарит радость для других.
И с Богом никогда не расставаться:
Он укрывает всех детей своих.

*Раіса Варонік*

**Паважанаму Ксяндзу Прэлату Юзафу Трубовічу**

з нагоды чарговай гадавіны святарскіх пасвячэнняў перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай міласэрны Бог узнагародзіць Вас моцным здароўем, сілай і нязгасным запалам у шчырай і адданай паслузе Яму і людзям. Жадаем душэўнага супакою, цішыні ў сэрцы, мноства прыгожых, спакойных, сонечных і благаслаўлёных дзён.

*Парафіяне з касцёла Беззаганнага Зачацця НПМ, Гродна-Паўднёвы*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Аляксандру Раманоўскаму**

з нагоды чарговай гадавіны святарскіх пасвячэнняў перасылаем букет найлепшых пажаданняў. Бог даў Вам мудрасць, прастату і цярплівасць, надзялілў сваёй любоўю і апекай. Няхай прамень Яго ласкі заўсёдыззяе над Вашай галавой, а душпастырская паслуга будзе напоўнена Яго благаслаўленнем.

*Парафіяне з касцёла Беззаганнага Зачацця НПМ, Гродна-Паўднёвы*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Ігару Анісімаву**

з нагоды Дня нараджэння шчыра жадаем здароўя, сонечных дзён, зычлівых людзей побач, сіл у нялёгкай святарскай паслузе, шчодрых Божых ласкаў і Хрыстовых дароў: міру, радасці, надзеі. Няхай добры Бог заўсёды дапамагае, а Найсвяцейшая Панна Марыя клапоціцца пра Вас.

*З малітвай вернікі з касцёла Беззаганнага Зачацця НПМ у Слоніме*

**Паважанаму Ксяндзу Дзянісу Шмыгіну**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай здароўе будзе моцным, сілы – бясконцымі, а радасць – штодзённай. Няхай заўсёды акружаюць прамяні Божай міласэрнасці, моц Святога Духа і апека Найсвяцейшай Панны Марыі. Няхай Езус валадарыць у Вашым сэрцы і адорвае сваімі ласкамі, а святы Заступнік заўсёды знаходзіцца побач.

*З памяццю ў малітве члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Міжэрычаў*

**Паважанаму Ксяндзу Віталію Чургану**

з нагоды Імянін перасылаем мноства сардэчных пажаданняў. Няхай Хрыстос, якога штодзённа трымаеце ў сваіх святарскіх руках, благаслаўляе кожны Ваш дзень, Маці Божая ахінае сваёй любоўю і апекай, а Святы Дух дапамагае годна выконваць святарскую паслугу і нястомна адорвае сваімі дарамі. Жывіце ў здароўі і радасці, а сэрца няхай заўсёды будзе напоўнена спакоем і любоўю.

*З памяццю ў малітве члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Юраціўкаў*

**Паважанаму Ксяндзу Алегу Пятрашку**

з нагоды Імянін ад шчырага сэрца жадаем добрага здароўя на доўгія гады, моцы і цярплівасці ў выкананні душпастырскіх абавязкаў і Божага благаслаўлення на кожны дзень. Няхай добры і міласэрны Пан штодзённа Вас благаслаўляе, Найсвяцейшая Маці ахінае плашчом мацярынскай апекі і любові, Святы Дух шчодра адорвае сваімі дарамі, а Анёл-ахоўнік заўсёды будзе побач.

*З памяццю ў малітве члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Лядска*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Віталію Чургану**

з нагоды 20-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў жадаем моцнага здароўя, шчасця, радасці і поспехаў у душпастырскай працы, добрых парафіян на Вашым шляху. Няхай Пан Бог дапамагае заўсёды і ўсюды, а Маці Божая ахінае сваёй любоўю.

*Ружанцовае кола НПМ Тракельскай і парафіяне з Юраціўкаў*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Пышынскаму**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем найлепшыя пажаданні: здароўя, шчасця, доўгіх гадоў жыцця і шчодрых дароў Святога Духа. Няхай Маці Божая апекуецца Вамі, а добры Бог заўсёды ахоўвае.

*З памяццю ў малітве былыя парафіяне*

**Паважанаму Ксяндзу Алегу Дулю**

з нагоды 20-ай гадавіны святарскага жыцця ад усяго сэрца жадаем шчодрых Божых ласкаў, доўгіх гадоў жыцця, благаслаўлення і шмат радасных хвілін. Няхай Езус заўсёды будзе Вашым Сябрам, Святы Дух асвячае кожны дзень святарскай паслугі, Маці Божая прытуляе да свайго сэрца, а святы Заступнік заўсёды апекуецца Вамі.

*Парафіяне і Ружанцовае кола з касцёла св. Станіслава Косткі ў Ваўкавыску*

**Дарагой Спадарыні Вандзе Шумель**

з нагоды 90-годдзя складаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, Божага благаслаўлення і міласэрнасці, а таксама шчодрых дароў Святога Духа. Няхай Маці Божая нястомна Вамі апекуецца і атуляе плашчом мацярынскай любові.

*Члены сям'і і хор пабернардынскага касцёла*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Свіслоцкаму**

з нагоды Дня нараджэння складаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя на доўгія гады, поспехаў у душпастырскай паслузе і Божага благаслаўлення на кожны дзень. Шчыра Вам дзякуем за ахвярную працу на карысць Пану і людзям.

*Удзячныя парафіяне з Бердаўкі*

**Паважанаму Ксяндзу Дзмітрыю Несцеру**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні: Божага благаслаўлення на кожны дзень жыцця і святарскай паслугі, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, дароў Святога Духа і шчодрага плёну на Божай ніве. Няхай здароўе, радасць і супакой ніколі Вас не пакідаюць, а побач будуць толькі зычлівыя людзі.

*З памяццю ў малітве і ўдзячнасцю вернікі з капліцы Сураж*

**Дарагой Маме, Бабулі, Прабабулі і Праправабулі Ядзвізе Аленскай**

з нагоды 100-гадовага юбілею ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, радасці, спакою, Божага благаслаўлення і апекі Панны Марыі на далейшыя гады жыцця.

*Дочкі, сын з жонкай, унукі, праўнукі і праправнучкі*

**Паважанаму Ксяндзу Станіславу Пытэлю**

складаем словы шчырага жалю ў сувязі са смерцю бацькі. Няхай міласэрны Бог прыме душу памерлага ў сваё Валадарства.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Васіліўкаў*

**Паважанаму Ксяндзу Станіславу Пытэлю**

ў сувязі са смерцю бацькі перасылаю словы спачування і хрысціянскай падтрымкі, а таксама яднаюся ў малітве аб вечным супакоі для памерлага.

*Андрэй Слонімец*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні.**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** галоўны рэдактар – **кс. Юрый Марціновіч;** заснавальнік – **Гродзенская рымска-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання – **1997**; рэгістр. **№1085**; выдавец – **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** тэл. **(80152) 75-64-38; (8029) 571-30-77** (мтс); e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com; http://www.slowo.grodnensis.by.** Тэхнічны рэдактар – Юрый Лавыш.
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 ад 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 4559; тыраж 5045; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты. Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная